Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

16 – 22 КАСТРЫЧНІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 5000 РУБЛЁЎ
№42 (182)

АДНА ЗЯМЛЯ

АСТРАВЕЦ

## Пісьмы па экспрэс–пошце

У раённым вузле паштовай сувязі з'явілася новая паслуга для насельніцтва – адпраўка пісьмаў па экспрэс–пошце.

Ужо з'явіліся і першыя кліенты, якія пачалі ахвотна карыстацца новай у Астраўцы паслугай.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ГРОДНА

## Журналісты пра выбары

На мінулым тыдні ў канферэнц–зале гродзенскага гатэля "Турыст" прайшоў семінар, арганізаваны Беларускай асацыяцыяй журналістаў, Сусветным інстытутам свабоднай прэсы (ЗША, штат Каліфорнія).

Удзел у ім узялі прадстаўнікі мас–медыя Гродзеншчыны як з недзяржаўных выдняў, так і з "раёнак". Падчас семінару разглядаліся пытанні асвятлення выбарчага працэсу, стратэгічнага планавання і менеджменту, а таксама дызайну газеты і ўзаемаадносінаў рэгіянальнай прэсы і мясцовых улад. Акрамя гэтага, па пытаннях асвятлення выбараў вяліся дыскусіі, дзе любы з удзельнікаў мог выказаць свой пункт гледжання на тое ці іншае пытанне, праблему.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АШМЯНЫ

## Піва ў Лідзе лепшае за аўтобусы

Ашмянскі аўтапарк №13 у жніўні разжыўся новым аўтобусам "ЛАЗ–695". Каштаваў прадпрыемству "навічок" амаль 2 мільярды 400 мільёнаў рублёў. Сваіх сродкаў на яго набыццё, натуральна, не было, але купілі аўтобус за лік транспартнага збору.

Дырэктар аўтапарка №13 **Віктар Скаскевіч** прызнаўся, што зрабіў для сябе выснову: на Лідскім заводзе "Нёман", а куплены аўтобус збіралі менавіта там, яшчэ далёкія ад дасканаласці ў выпуску аўтобусаў.Пасля двух месяцаў работы на лініі ў аўтобусе выйшлі са строю два энергаакумулятары, іншыя дэталі. На старых аўтобусах доўга не накатаешся, але і новыя не ў радасць.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Беларуская, англійская, іўрыт

На гэтым тыдні раён наведаў выканаўчы дырэктарфонда захавання яўрэйскай спадчыны ва Усходняй Еўропе (фонд зарэгістраваны ў Англіі) **Фрэнк Шварц.**

Ён агледзеў мясціны, звязаныя з гісторыяй яго народа, пабыў на старажытных могілках, месцах масавага знішчэння яўрэяў падчас Другой Сусветнай вайны. Фрэнк Шварц зацікаўлены ў аднаўленні будынка былой іешывы, якая была адным з сусветных цэнтраў талмудычнага вучэння. Спецыялісты ўжо ацэньвалі, у колькі гэта абыдзецца, і першае, што будзе зроблена, – на будынку ўстановяць мемарыяльную дошку з тэкстам на беларускай, англійскай мовах і іўрыце.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

СМАРГОНЬ

## Выбіраюць не "Колу"

Восень для беспрацоўных ужо даўно лічыцца своеасаблівым выпрабавальным колам у тым сэнсе, што можна разжыцца на зіму калі не грашыма, дык бульбай, капустай дакладна.

Сёлета ў раёне ў верасні на працу запрашалі 11 калгасаў. Яны на сваім транспарце забіралі і адвозілі людзей з райцэнтра, што было даволі зручна. Ды і наконт аплаты пакрыўджаных не было. Кожны з трохсот беспрацоўных мог выбраць любую гаспадарку, дзе ўмовы аплаты для яго былі найбольш спрыяльныя. Але найбольш жадаючых папрацаваць было ў калгасах "Кушляны" і "Кастрычніцкі", а таксама ў аграфірме "Вілія". У апошняй беспрацоўныя за адну сабраную тону бульбы атрымлівалі па 160 тысяч рублёў і 60 кілаграмаў капусты. Цяпер яны могуць смела сцвярджаць, што з зімоўкай праблем не будзе.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АСТРАВЕЦ

## Звыклы ланцужок

Не пазайздросціш цяпер многім жыхарам вёсак, якія вымушаныя самі вырашаць пытанне транспарту, каб дабрацца па сваіх справах у райцэнтр. З нядаўняга часу тут адменены рух аўтобусаў па дзевяці маршрутах. Прычына, як ні банальна гэта чуць у апошнія гады, – адсутнасць грошай. Далей складваецца звычайны ланцужок: няма грошай, няма бензіну і не ходзяць аўтобусы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ*

МАЛАДЗЕЧНА

## «Рэгіянальная» мяняе адрас: Вялікі Гасцінец, 68а

*Наша газета гэтымі днямі пераязджае (цокальнае памяшканне жылога дома, дзе раней размяшчаўся Цэнтр метралогіі і стандартызацыі). Уваход з адваротнага ад пад'ездаў боку. Будынак знаходзіцца побач з месцам нашага ранейшага прабывання.*

Вялікі Гасцінец

Вялікі Гасцінец, 68а

СШ №6

«РГ»

Вул. Хмяльніцкага

AIDS

# СНІД дайшоў да Маладзечна

***У цэнтры рэгіёна зарэгістраваны першы інфіцыраваны на ВІЧ. Сумны лік адкрыла жанчына, сямейная, без шкодных звычак. Высвятляецца крыніца інфекцыі.***

Па дадзеных Беларускага цэнтра прафілактыкі СНІД, з дыягназам «СНІД» у Беларусі памерлі 12 хворых. Хаця інфіцыраваныя адыходзяць з жыцця значна часцей- арганізм не здольны перамагаць самыя звычайныя хваробы. На працягу апошніх двух гадоў ад ВІЧ-інфіцыраваных мацярок нарадзілася 60 дзяцей.

*Аддзел інфармацыі.*


Учора на вуліцы Касманаўтаў у Маладзечне.
ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА

ВІЗІТЫ

## Мяснiковіч крытыкуе вертыкаль

***Мінулы тыдзень для Гродзенскай часткі нашага рэгіёна быў адметны тым, што туды наведаўся кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, дзе сустрэўся з кіраўнікамі прэзідэнцкай вертыкалі.***

Падчас візіту ўзнімаліся пытанні, звязаныя з работай старшыняў і членаў выканкома па сацыяльна–эканамічнаму развіццю раёнаў, а таксама ідэалагічная і арганізацыйна–кадравая работа.

У Астраўцы Мясніковіч, у прыватнасці, звярнуў увагу на кепскі падбор кіруючых кадраў, завышаныя цэны ў крамах і запазычанасці па зарплаце. Відавочна, пасля такіх крытычных выказванняў трэба чакаць зменаў у кіраўніцтве. Ці, можа, на месцах гэта будзе праігнаравана?

*Аддзел інфармацыі.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Прыйшла кароста

МАЛАДЗЕЧНА. Сярод школьнікаў горада пры медаглядах зарэгістравана 5 выпадкаў захворвання на каросту і 1 выпадак мікраспарыі. 2 выпадкі захворвання на шкарлятыну зарэгістравана ў д/с №10 і 18. Педыкулёз зарэгістраваны ў 4 школьнікаў горада і 4 школьнікаў раёна. Ёсць пад'ём захворваемасці вострымі рэспіраторнымі захворваннямі, якіх за тыдзень зарэгістравана 783 выпадкі.

Спецыялістамі цэнтра праведзены забор проб прадуктаў з 14 населеных пунктаў Хохлаўскага с/савета, у якіх радыяцыйнае забруджванне глебы вышэй за 1 кю/кв. км. Радыяцыйны фон склаў 0.10–0.15 млР/гадзіну, што ў межах дапушчальнага фону (да 0.20 млР/гадзіну). Даследавана на ўтрыманне радыенукліду цэзію–137 13 проб малочнай прадукцыі і 23 пробы гародніны і садавіны. Усе прадукты адпавядалі дапушчальным нормам. З гэтых самых населеных пунктаў даследаваная вада з шахтавых калодзежаў, усе пробы не адпавядалі патрабаванням па бактэрыялагічных паказчыках. Гэта сведчыць пра неабароненасць калодзежаў ад вонкавага забруджвання і неабходнасці ўжывання вады толькі ў кіпячоным выглядзе.

*Віктар БЕЛІК, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Маладзечанскага раёна.*

АБ'ЯДНАННЕ

## Пошукі ўзаемаразумення

ВІЛЕЙКА. У сераду старшыні райвыканкома **Іван Шнітоўскі** і райсавета **Мікалай Мандрык** былі ў Мінску, дзе абмяркоўвалася магчымасць аб'яднання горада і раёна.

За дзень да паездкі старшыня райвыканкома сказаў карэспандэнту "РГ", што ён супраць аб'яднання. У раёне 25 гаспадарак са сваімі праблемамі. Горад жа мае свае ...

Цяпер рыхтуецца раённая сесія дэпутатаў па аб'яднанні. Яна адбудзецца, хутчэй за ўсё, 3 лістапада.

У папярэдніх планах - правядзенне сесій горада і раёна у адзін дзень і час. У гэтым выпадку гарадское і раённае рашэнні пойдуць у Савет міністраў і Адміністрацыю прэзідэнта адначасова

*Аддзел інфармацыі.*

НАША ДАВЕДКА

## Расклад руху электрацягнікоў па ст. Маладзечна з 12 кастрычніка

| Адпр. Маладз. | Прыбыццё Мінск | без прып. |
|---|---|---|
| 4-32. | 6–12 | Сел., Кр., Ан |
| 5–30 | 7–17 | |
| 6–03 | 7–45 | Сел., Кр., Ласі |
| 6–30 | 8–19 | |
| 7–42 | 9–29 | |
| 8–24 | 10–12 | |
| 8–59 | 10–47 | |
| 9–55 | 11–44 | |
| 10–41 | 12–29 | |
| 11–43 | 13–22 | **вых.** Сел., Рам., Ан., Хм., М.М. |
| 12–55 | 14–43 | |
| 13–42 | 15–29 | |
| 14–34 | 16–24 | |
| 15–31 | 17–19 | |
| 16-02 | 17–34 | **пт., вых.** Сел., Кр., Ласі, Рам.,Вяз.,Ан., Хм., Зял., Крыж. |
| 16–26 | 18–13 | |
| 17–20 | 19–01 | |
| 17–50 | 19–36 | |
| 18–27 | 20–13 | |
| 19–48 | 21–28 | Ан., Хм., М.М., Леб. |
| 20–26 | 22–08 | Ан., Леб. |
| 21–09 | 22–53 | Леб. |
| 22–25 | 23–49 | Сел., Ласі., Баяры., Прал., Ан., Хм., Зял., Крыж., М.М., Леб. |

| Адпр. Мінск | Прыбыццё Маладз. | |
|---|---|---|
| 4–28 | 6–04 | |
| 5–24 | 7–09 | |
| 6–32 | 8–11 | |
| 6–58 | 8–20 | |
| 7–37 | 9–30 | |
| 8–15 | 10–02 | |
| 9–00 | 10–47 | |
| 9–42 | 11–21 | **вых.** |
| 9–53 | 11–41 | |
| 11–03 | 12–51 | |
| 12–00 | 13–47 | |
| 12–56 | 14–42 | |
| 13–38 | 15–26 | |
| 14–59 | 16–40 | **пт., вых.** |
| 15–36 | 17–22 | |
| 16–15 | 18–02 | |
| 16–53 | 18–51 | |
| 17–41 | 19–28 | |
| 18–27 | 20–15 | |
| 19–13 | 21–00 | |
| 20–26 | 22–10 | |
| 21–14 | 22–58 | |
| 22–38 | 0–18 | |

**Тэл. для даведак 70848, 42423.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## Піва для боскіх служак–2

***Пасля інфармацыі ў "РГ" (№40, 2–8 кастрычніка) вілейчанін Алег Збераноўскі даслаў нам ліст:***

"Добры дзень, эксперты "РГ"! Высылаю вам дзве этыкеткі рознага піва, аднак аднаго піўзавода. Акрамя назвы піва, каляровага фону, ёсць яшчэ тры адрозненні: адзенне, колер твару, наяўнасць (і адсутнасць) барады. Можа, ёсць нешта яшчэ?"

Мы падтрымліваем ініцыятыву Алега. Хто ўбачыць большую колькасць адрозненняў (пажадана нам напісаць), атрымае бутэлькі нашага фірменнага піва, а партрэт пераможцы, як сапраўднага аматара і знаўцы піва, будзе змешчаны на старонках "РГ".

*Яшчэ адзін аматар піва Адам ЖЫГУЛЁЎСКІ.*



СТАРЫ АЛЬБОМ



У 1937 годзе пры заступніцтве святара Лебедзеўскай праваслаўнай Крыжаўзвіжанскай царквы Ігната Мядзведскага на базе царкоўнага хору пад кіраўніцтвам цесця Барыса Кіта **Івана Корсака** была створаная Лебедзеўская харавая капэла, якая, пашырыўшы свой рэпертуар за кошт беларускіх народных песень, пачала выступаць у розных кутках Заходняй Беларусі. Праз хуткі час гасцей, апранутых у нацыянальныя строі, з паспяховым выступленнем ужо вітала сцэнічная грамадскасць нашай старажытнай сталіцы Вільні. Напрыканцы 50–х гадоў, вярнуўшыся з бальшавіцкай катаргі, на спрыяльнай нацыянальнай глебе, пануючай у мястэчку, наш апантаны музыкант і фальклярыст **Іосіф Сушко** (на фота крайні, кіруе самадзейным калектывам) аднаўляе дзейнасць капэлы, якой у 1962 годзе прысвойваецца ганаровае званне "Народная".

На здымку капэлы (пачатак 60–х гадоў) шмат людзей, якіх ужо няма сярод нас. Як жывыя, у маім уяўленні праходзяць брат майго дзеда **Міхась Зяновіч** і яго жонка **Алена**, сціплы, стрыманы **Леанід Шышко**, адзін з заснавальнікаў калектыву **Андрэй Блін**, віртуозы скрыпкі і акардэона **Багдан Габрыновіч** і **Кастусь Корсак**, настаўніца біялогіі **Зоя Дарожка** і былыя ўдзельнікі царкоўнага хору **Соф'я Дудко, Марыя Даўгаполава** і **Вера Харужык**.

*Алесь ЦАДКО.*

ФОТА З АЛЬБОМА МАРЫІ ЗЯНОВІЧ.

КУЛЬТУРА

# Выстаўка Дзіны Шымук

ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале адкрылася выстаўка фларыстыкі **Дзіны Шымук**.

Мастачка працавала ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Толькі ў сталым узросце пачала займацца фларыстыкай. Яе творы выстаўляліся ў Нарвегіі, Фінляндыі, Францыі. У Вілейку яна прывезла 97 работ. Яны аб'яднаныя па тэматыцы – "Мой родны кут", "Песні гор", марскія матывы, вобразы.

Дарэчы, Шымук – адзіны ў рэспубліцы мастак, які працуе з вобразамі. І цэнтральнае месца ў гэтай тэматыцы займае вобраз Ганны Ахматавай.

У Дзіны Шымук шмат сяброў. Матэрыялы для работ ёй высылаюць з Кітая, Японіі, амаль усіх краін СНД.

*Аддзел інфармацыі.*

# Атрымайце участковага

ВАЛОЖЫН. У штатным раскладзе РАУС з'явілася пасада яшчэ аднаго – трэцяга – участковага інспектара па горадзе.

Затое Івянецкае і Ракаўскае аддзяленні фактычна страцілі свой статус, і колькасць супрацоўнікаў тут зменшылася.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

# Хваробы - жанчынам і дзецям

ВІЛЕЙКА. Сёлета з 345 цяжарнасцяў вілейчанак 340 працякалі з паталогіяй. Жанчыны перанеслі інфекцыйныя, хранічныя захворванні.

У Беларусі, прыкладам, кожныя трэцяя роды праходзяць з паталогіяй.

З 337 вучняў 1–4 класаў гімназіі толькі 99 могуць займацца фізкультурай у асноўнай групе. Найбольш распаўсюджаныя захворванні – зніжэнне вастрыні зроку (56 дзяцей), парушэнні асанкі (55).

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

БУДОЎЛІ

# Школа ў стылі "еўра"

СМАРГОНЬ. На Смаргоншчыне не прыпыняецца будаўніцтва і абнаўленне. Нядаўна закончаная работы па будаўніцтве новых памяшканняў і рэканструкцыі існуючых у школе–інтэрнаце для сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі. Пускавы комплекс быў звязаны з будаўніцтвам сучасных басейна і зімовага саду, карэнным расшырэннем сталовай. Напачатку навучальнага года была здадзеная першая чарга, а ў пачатку кастрычніка райвыканкам зацвердзіў акты прыёмкі другой часткі пускавога комплексу – прыбудову да школьнай сталовай з рэканструкцыяй абедзеннай залы.

Школа стала ці не самай прыгожай сярод аднатыпных у Беларусі.

Другая частка пускавога комплексу абышлася дзяржаве ў 12,43 мільярда рублёў. Паралельнай вуліцай Іванова пракладзеныя камунікацыі сувязі, так што, апрача школы, магчымасць адносна таннай установкі тэлефонаў атрымалі жыхары гэтай вуліцы.

Генпадрадчык будоўлі і рэканструкцыі – арэндны трэст №41, яго субпадрадчыкі БУ–171, БУ "Спецкамплектбуд", УМСР–230 (кіраўнікі **Уладзімір Аўчарэнка, Яўген Гурскі, Вячаслаў Андрэеў, Валерый Жванік**), а таксама маладзечанскія субпадрадчыкі–сантэхнікі зрабілі ўсё, каб абдзеленыя лёсам дзеці, іх педагогі і выхавальнікі жылі, вучыліся, адпачывалі ў нармальных умовах.

*Павел МАКЛЮК.*

# Новыя магазіны горада

СМАРГОНЬ. Пад восень тут гасцінна расчынілі свае дзверы яшчэ два новыя магазіны. "Візіт" – магазін пайсядзённых тавараў ці не за тры месяцы ўзвёў канцэрн "Праітэкс–Лтд" на чале з вопытным гаспадарнікам **Уладзімірам Мірутам**. А "Світанак" адчыніў як свой фірменны магазін хлабазавод. Пасля рэканструкцыі хутка прыме наведвальнікаў новы магазін ААТ "Смаргонскія малочныя прадукты" на бойкай вуліцы Коласа. Гандлёвая сетка горада пашыраецца і за кошт установкі ў цэнтры горада капітальных трох павільёнаў МП "Ніва–ЗАС", (гэта малое прадпрыемства завода аптычнага станкабудавання мае цяпер толькі ў Смаргоні пяць капітальных магазінаў і некалькі павільёнаў). Новыя магазіны для фірменнага гандлю "Васіліна" і "Анастасія" адкрыў сёлета і калектыў камбікормавага завода.

Адначасова ў горадзе добраўпарадкоўваюцца і рэканструююцца прадпрыемствы гандлю розных формаў уласнасці. На гэтыя мэты за студзень–верасень зрасходавана 8460 мільёнаў рублёў.

Да камерсантаў, якія не хочуць ці не могуць утрымліваць свае павільёны ў належным выглядзе, прымяняюцца санкцыі. У верасні рашэннем мясцовай улады зліквідаваныя сем гандлёвых павільёнаў прыватных уладальнікаў. Знесці іх павінны самі камерсанты. У адваротным выпадку гэта зробяць камунальнікі. За кошт саміх уладальнікаў, вядома.

*Павел МАКЛЮК.*

# Ці адчыніць дзверы банк?

АСТРАВЕЦ. Будаўніцтва новага адміністрацыйнага будынка аддзялення "Беларусбанк", якое вядзецца даволі працяглы тэрмін, выйшла на фінішную прамую.

Ужо поўнасцю ўзведзены будынак, устаўленыя дзверы і вокны. Цяпер, як зазначыла дырэктар "Беларусбанка" **Альдона Сухадольская**, справа за аддзелачнікамі. Так, глядзіш, да Новага года кліенты па сваіх грашовых справах будуць наведвацца ў прыгожы і новы будынак.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

БЕЗ БУЛЬБЫ

# Затое апранутыя

СМАРГОНЬ. Дзякуючы намаганням старшыні асацыяцыі шматдзетных маці раёна **Ларысы Растовай**, гуманітарную дапамогу ў выглядзе цёплага адзення атрымалі перад Днём маці шматдзетныя сем'і.

За апошні месяц гэта ўжо другая партыя вопраткі з–за мяжы. Міжнародны Чырвоны Крыж не спыняе акцыі міласэрнасці.

Але засталася без увагі мясцовых уладаў просьба шматдзетных маці дазволіць перакапаць паўторна ўчасткі, дзе скапалі бульбу. Яно і правільна: няхай лепш згніе.

*Аддзел інфармацыі.*

ШКОЛА

# Няма межаў дасканаласці

*ВІЛЕЙКА. Дальтан–урокамі, што праводзяць у гімназіі, зацікавіліся і ў рэспубліцы.*

Пераймаць досвед на гэтым тыдні прыехалі педагогі з Віцебскага інстытута ўдасканальвання настаўнікаў.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

# Настаўніка знялі з работы

***МАЛАДЗЕЧНА. Настаўнікі адзначылі сваё прафесійнае свята. Менавіта з гэтай нагоды ў СШ №12 быў абвешчаны дзень самакіравання. Старшакласнікі маглі паспытаць сябе ў якасці настаўнікаў. Нават адміністрацыя была часова замененая навучэнцамі школы.***

У дзесяць раніцы правялі святочную лінейку, на якой новы "несапраўдны" дырэктар зрабіў шэраг цікавых загадаў. Настаўнікі і адміністрацыя часова здымаліся са сваіх пасад і пераходзілі ў навучэнцы пачатковых класаў.

Амаль уся адміністрацыя трапіла ў 1 "Я" клас – "клас яснавыражаных лідэраў, самых гаманкіх і дзелавых, патрыятычна настроеных вучняў". У 1 "Э" сабраліся "самыя эмацыянальна ўраўнаважаныя, эрудыраваныя і дысцыплінаваныя". І "Ю" аб'яднаў "юных не толькі знешне, але і духоўна, запальных, ініцыятыўных і кантактных" навучэнцаў. У якасці эксперымента арганізавалі мужчынскі спецклас "халадок" – "самых цвярозамяркуючых, фізічна развітых, таленавітых і мэтанакіраваных" вучняў.

Дзень стаў сапраўдным святам для дзяцей. А настаўнікі... "Сапраўдны" дырэктар школы **Валянціна Шульжыцкая** сказала:

– Настаўнікаў шмат. Можа, каму што–небудзь і не спадабалася, але свята прайшло добра. Толькі трошкі не хапіла арганізаванасці.

У другой палове дня настаўнікаў віншавалі канцэртам. Яго адкрыў дырэктар школы, які павіншаваў калег, а потым некаторым з іх уручыў ганаровыя граматы.

Трохі пазней правялі конкурс "Настаўнік–98", у якім удзельнічалі маладыя настаўнікі. Усе яны набралі аднолькавую колькасць балаў, але гледачы мелі магчымасць убачыць самыя разнабаковыя таленты педагогаў.

Завуч па выхаваўчай рабоце **Ганна Найдзюк**:

– Сёння вучні і настаўнікі зліліся ў адну сям'ю. Спадзяюся, што гэтае яднанне застанецца да наступнага Дня настаўніка!

У гонар Дня настаўніка ўсе дзеці бясплатна харчаваліся. Экспрэс–сняданак, прыкладам, уключаў булачку з гарбатай, катлету з макаронай.

*Іна ВЯЖЭВІЧ, вучаніца СШ №12.*

ПРЫВІТАННЕ, ШВЕЦЫЯ!

# Швецыя -краіна сацыялізму

Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.



*Шведы, незалежна ад таго, жанчыны гэта ці мужчыны, ідуць на пенсію ў 65 год. Але нават у пенсійным узросце яны часта працуюць. Прадавец хот-догаў у Стакгольме.*



*Шахцёр і жанчына- кампазіцыя ў цэнтры мястэчка Нуру.*



*Старасць спакойная. Яна забяспечваецца дзяржавай і бюджэтамі камун.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

***-Чым беларускі сацыялізм адрозніваецца ад шведскага?- спыталіся ў мяне шведскія калегі падчас вячэры ва ўтульным рэстаранчыку ў Ліндэсбергу.***

Краіна, якая ў канцы мінулага стагоддзя лічылася адной з самых жабрацкіх у Еўропе, за дзесяцігоддзі ўлады сацыял-дэмакратаў здолела на падставе капіталістычнага спосабу вытворчасці пабудаваць грамадства, дзе сацыяльная абароненасць людзей стаіць на першым плане. І заўсёды была рэальнай.

Асаблівую падтрымку адчуваюць інваліды. Перш за ўсё на варце іх інтарэсаў стаіць дзяржава. Узяць, хаця б, такі прыклад. Сярэднестатыстычнае мястэчка, дзе выдаецца штодзённая газета. На світанку кожнага дня гадзін у тры-пяць, па спецыяльным канале мясцовага радыё дыктарам для сляпых падпісчыкаў начытваецца поўны змест ранішняй мясцовай газеты. У дзесятках дамоў тэкст аўтаматычна запісваецца на магнітолу. У зручны для інваліда час ён можа ўключыць магнітафон і паслухаць, што піша мясцовая газета сёння. І так штодня па ўсёй Швецыі. Зразумела, што грошай на такую газету, якая гаворыць, трэба нямала. І гэта праграма датуецца дзяржавай. Дарэчы, вы заўважылі, што ў Швецыі таксама як і ў былым Саюзе, ёсць сетка мясцовага радыёвяшчання? Саветы не былі арыгінальнымі ў ідэі агульнай радыёфікацыі, хаця аб гэтым заяўлялася паўсюдна.

Швед часта скардзіцца на вялікія падаткі. Але ў той самы час не ўхіляецца ад іх аплаты. Разумее - яго дваццаць-трыццаць- трыццаць пяць працэнтаў заробку (у залежнасці ад прыналежнасці да камуны і прынятых самакіраўніцтвам камуны рашэнняў) ідуць у камунальную казну дзеля камунальных і сацыяльных праграм. Кожнае прадпрыемства акрамя таго пералічвае сродкі ў агульнашведскі бюджэт. У аплаце падаткаў усе роўныя, як і ў атрыманні гарантый. Каралева Швецыі як роўная сярод роўных атрымлівае дапамогу ад дзяржавы на выхаванне дзяцей. І плаціць падаткі.

Дарэчы, пра дзяцей. Дародавага адпачынку шведскія жанчыны не маюць, але пасля родаў паўтара года атрымліваюць дапамогу ў памеры 80 працэнтаў ад апошняга заробку. Быць з дзіцёнкам дома можа і бацька. Як у Беларусі. А пяць год таму прыняты закон, згодна з якім бацька **абавязаны** ўзяць адзін месяц адпачынку па догляду за дзіцем. Наш сацыялізм, выбачайце, да гэтага не дайшоў.

У Швецыі працуюць бясплатныя бібліятэкі, якія датуюцца камунальнымі і агульнадзяржаўнымі бюджэтамі, існуе абавязковае 9-гадовае навучанне. Амаль як у Беларусі. Затое ў Швецыі няма такога паняцця, як службовы аўтатранспарт нават для работнікаў урада. Усе карыстаюцца, калі ў іх няма жадання ездзіць на веласіпедзе, як гэта робіць мэр Стакгольма, уласным транспартам. Літр бензіну каштуе 8 крон (адзін амерыканскі долар). 7 крон з якіх ідуць у даход дзяржавы і на рашэнне транспартных праблем і на рэалізацыю сацыяльных праграм. Кожны швед можа пакарыстацца грамадскім транспартам. Але малая загрузка яго (звычайна ў міжгародніх аўтобусах ездзіць усяго некалькі пасажыраў) робіць нерэнтабельнымі аўтобусныя перавозкі. Хітрыя шведы і тут змаглі спалучыць капіталістычны інтарэс і сацыялістычныя выгоды. Камуна наймае аўтобусы ў прыватнага прадпрыемства і даплачвае яму са свайго бюджэту, пакрываючы страты. Таму ў Ландсбергесе, у адрозненне ад Вілейкі або Маладзечна, ездзяць толькі навюткія аўтобусы. А вадзіцелі не крадуць выручку з касы.

Швед і шведка ідуць на пенсію ў 65. Гэта адрознівае шведскі сацыялізм ад беларускага. Але дажываюць да пенсіі амаль усе. Гэта таксама адрознівае Швецыю ад Беларусі.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 7.10 | 14.10 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 164 | **198,1** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 390 | **397** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 123 | **126,5** |
| Скумбрыя (тушка) сал. | 1 кг | - | **199** |
| Рыс | 1 кг | 80 | **95** |
| Цукар | 1 кг | - | - |
| Грэчка | 1 кг | 90 | **90** |
| Алей | 1 л | 140 | **160** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 27 | **28,8** |
| Маянэз | 250 г | 42 | **43** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 145 | **190** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 50 | **50** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 48 | **60** |
| Лімоны | 1кг | 160 | **165** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 35 | **50** |
| Масла | 1 кг | 150 | **160** |
| Тварог | 1 кг | 60 | **40** |
| Малако | 1,5 л | 15 | **20** |
| Бульба | 1 вядро | - | - |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 38 | **45** |

## Даставай маслабойку

Нядоўга давялося чакаць павышэння базарнай цаны на малако. За маслам падняліся цэны і на яго сыравіну. За пластыкавую «паўтарачку» на базары прасілі па 20 тысяч. Успомнім нядаўняе лета, калі цэны на малако трымаліся стабільна на ўзроўні 8-10 тысяч за літр. Цяпер можна прагназаваць рост базарных цэн на малако і далей.

Масла, каштуючы ў крамах ужо па 125-128 тысяч за кілаграм, застаецца таннейшым за сабекошт. Ператвараючыся з-за гэтага ў дэфіцыт. Калі цана на масла, нязначна павысіўшыся, застанецца такой, то нам не пазбавіцца чэргаў у крамах, продажу з-пад крыса і да т. п. Хаця ў кожным горадзе свае асаблівасці. Масла ў Маладзечне пры норме ў 400 грамаў дакупіцца амаль немагчыма, у Вілейцы (норма 200 грамаў)- стала крыху свабадней, а ў Мінску запраста можна купіць і паўкілі.

Яшчэ адзін з прагнозаў- успомнім практыку дзесяцігадовай даўніны, калі масавым стала «захапленне» біць масла ў трохлітровых слоіках з купленай смятаны ў сябе на каленях. Смятана таксама прадаецца таннейшай за сабекошт.

*Мікола ГАЙДУК.*

## Пакупнікоў хоць адкідай

СМАРГОНЬ. Лясгас трымае ўласную краму "Ялінка". Тавар вырабляецца рукамі лесаводаў. Кошт на дзверы, вокны і іншае па кішэні пакупнікам. Стандартныя дзверы каштуюць не больш за два мільёны. Праўда, ёсць адно "але", якое тычыцца магчымасцяў лясгаса. Лесаводы штомесяц могуць вырабляць прадукцыі не больш за сто квадратных метраў. Таму пакупнікі, каб набыць танныя вырабы, вымушаныя запісвацца ў чаргу. Тыя, хто падаў заяўку ў пачатку кастрычніка, змогуць у снежні забраць свае вырабы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Разлікі мясам

ВАЛОЖЫН. Буйнейшы ў раёне свінагадоўчы комплекс, што знаходзіцца ў калгасе імя Карла Маркса, перажывае этап рэканструкцыі.

Крэдытную лінію ў 4,5 мільярда рублёў адкрыў гаспадарцы Мінскі гарвыканком. Разлічыцца за пазыку да канца года трэба будзе мясам.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

АЦЯПЛЯЛЬНЫ СЕЗОН

# Шматпавярхоўкі з частковымі выгодамі

***МАЛАДЗЕЧНА. Тры шматпавярхоўкі (завулак Маладзечанскі, 1, вуліца Замкавая, 56 і Афіцэрская, 2) ацяпляюцца ад кацельні станкабудаўнічага завода. "РГ" звярталася да гэтай тэмы раней, цяпер мы вымушаныя канстатаваць: жыхары згаданых дамоў сталі заложнікамі вытворчых паказчыкаў прадпрыемства. Паколькі станкабудаўнічы няспешна, але ўпарта спускаецца ў эканамічную бездань, гарачая вада, цяпло ў кватэрах сталі дэфіцытам.***

Апошнія гады жыхары яшчэ змагаліся за лепшую долю – збіралі подпісы, пісалі па інстанцыях лісты. Сёння барацьбіты стаміліся і спадзяюцца толькі на цуд. А вось галоўны энергетык завода **Уладзіслаў Рудакоў**, чый абавязак – здымаць, у прыватнасці, і гэтыя пытанні, спадзяецца на Лукашэнку:

– Прэзідэнт паабяцаў, што замерзнуць не дасць.

Дык ці будзе сёлета цёпла ў "шматпавярхоўках з частковымі выгодамі" (менавіта так сваё жытло называюць кватэранаймальнікі)?

Дырэктар станказавода **Уладзімір Рудзько**:

– Летась для ацяплення жылля завод браў крэдыт, дапамагаў горад. Цяпер толькі горад і будзе пералічваць па частках грошы на набыццё мазуту. Я гарантую, што кожны рубель пойдзе на набыццё паліва.

Начальнік ЖРЭУ–6 **Мікалай Саўчук**:

– Ведаю, што летась работнікі "Камунальніка" пастаянна былі на заводскай кацельні. Аднойчы тэмпература вады на выхадзе была +40°C. Пры тых умовах павінна быць +150°C. Зразумела, у кватэрах быў далёка не Ташкент. А ў доме №1 па Маладзечанскім завулку ацяпляльныя трубы наогул захаваныя ў панэлі. Частка цяпла ідзе ў кватэры, а частка – на вуліцу.

Уладзімір Рудзько:

– Летась домакіраўніцтва людзей пакрыўдзіла. Незалежна ад таго, якая цеплыня была ў кватэрах, грошы бралі 100 працэнтаў. І трэба размежаваць нашыя абавязкі з камунальнікамі–цеплавікамі. Сёння вады гарачай няма – тэлефануюць да нас. Звяртайцеся ў ЖРЭУ. Дом у іх на балансе, іх сантэхнікі яго абслугоўваюць. Праблему я разумею так: цяпло выйшла за тэрыторыю завода – далей адказвае за яго камунальная служба.

Вось і атрымліваецца, што ў дзвюх нянек дзіця без вока. І гэтай зімой, хутчэй за ўсё, справы па цяпле і вадзе ў гэтых дамах не зменяцца.

Уладзімір Рудзько:

– Акрамя шматлікіх вытворчых пытанняў, гэты дом для мяне – дадатковы галаўны боль. Гавораць, яшчэ да маёй работы на заводзе прапрацоўвалася 10 варыянтаў, як вырашыць праблему.

Мікалай Саўчук:

– Прасцей, каб дамы былі падключаныя да гарадской кацельні. Яшчэ калі працаваў у ЖРЭУ–5, памятаю, прапанавалі кватэранаймальнікам сабраць па 500 тысяч. Грошы патрэбныя былі для выканання рамонтных работ, каб падключыцца да цеплатрасы. Не ведаю, па якіх прычынах, але нічога не атрымалася.

Жыхары Замкавай, 56, загартаваныя пастаянным холадам, звыкліся з безвыніковай барацьбой. Толькі прывычна паказваюць на плесню ў шафах, гнілыя аконныя рамы. Але неяк безнадзейна. Ці будзе зімой цёпла ў кватэрах? Больш шанцаў, што не.

*Васіль САВІЦКІ.*

СЕРВІС

## «Шукайце слесара»

Аўтазаправачная станцыя ў Маладзечне на Вялікім Гасцінцы. Панядзелак. Бензакалонка №2. Невялікая, але чарга. У кожнага, хто запраўляецца, з пісталета ва ўсе бакі свішча бензін. Адзін з вадзіцеляў, заправіўшы аўто, падбягае да апаратара АЗС:

- Пісталет на другой калонцы няспраўны. Бензін выліваецца.

Запраўшчыца, незадаволеная тым, што парушаны звычайны рытм яе працы:

- Што вы мне гаворыце? Шукайце слесара!

## Што там выбіраеце?

Маладзечанскі магазін будматэрыялаў за нафтабазай. Пакупнік заплаціў за ўнітаз і выбірае сабе тавар. Зразумела, лепшы. Унітазы, хаця і прадаюцца як другасортныя, але ўсе адрозніваюцца адзін ад аднаго. Не спадабаўся адзін, другі... Мужчына спрабуе зняць са стоса ўпакаваных унітазаў трэці. Зразумела, не спадзеючыся на чыюсьці дапамогу (у магазіне працуюць толькі жанчыны), ці на кансультацыю (у магазіне працуюць прадаўшчыцы, выхаваныя на савецкіх правілах гандлю). Але чуецца строгі і патрабавальны вокліч работніцы крамы:

- Што там выбіраеце?!

- Унітаз.

- Колькі вы будзеце выбіраць? Гэты паглядзіце- і ўсё. Больш нельга.

- Але ж я заплаціў грошы і хацеў бы выбраць той тавар, які б хацеў.

- Гэта другі сорт, няма чаго тут выбіраць. А калі хочаце- грошы вам вернем.

Пакупнік, мяркуючы, што гандляры сапраўды могуць перадумаць і вярнуць грошы, пасунуўся з унітазам перад сабой на выхад.

*Аўтамабіліст і пакупнік у адной асобе Мікола ГАЙДУК.*

